СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск—4.46, 21.41, 16.55;
Віцебск—4.28, 21.39, 17.11;
Магілёў—4.36, 21.30, 16.54;
Гомель—4.42, 21.18, 16.36;
Гродна—5.04, 21.54, 16.50;
Брэст—5.13, 21.46, 16.33.

# ЗВЯЗДА

7 ліпеня 1992 г.
аўторак, № 134 (21912)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### АДНА НАДЗЕЯ—НА СУД?

**6 ліпеня ў 8 гадзін раніцы з аэрапорта «Мінск-1» у Маскву для ўдзелу ў сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД вылецела афіцыяльная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам.**

Як заявіў незадоўга да вылету Станіслаў Шушкевіч у інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН, на абмеркаванне кіраўнікоў дзяржаў выносяцца ўжо ўзгодненыя на ўзроўні экспертаў дакументы па эканамічных, ваенных і палітычных пытаннях, застаецца толькі падпісаць іх. Між тым будзе і шэраг спрэчных дакументаў — Станіслаў Станіслававіч канкрэтызаваць не стаў, сказаўшы, што «павінна быць пэўная далікатнасць».

— Мяне асабіста вельмі цікавіць пытанне аб стварэнні Гаспадарчага суда,— прадоўжыў С. Шушкевіч. — Прапанова аб яго стварэнні ўнесена нашай рэспублікай, і я спадзяюся, што ў час гэтай сустрэчы будуць падпісаны адпаведныя дакументы. У эканоміцы павінны быць пэўныя правілы гульні.

**Алесь ЛІПАЙ, БелаПАН.**

### ЧАКАЕЦЦА ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА РУМЫНІІ

Як стала вядома з інфармацыйных крыніц, 12 ліпеня чакаецца афіцыяльны візіт у Беларусь прэзідэнта Румыніі Іона Іліеску. Гэта будзе першы прыезд у нашу рэспубліку, іншыя краіны СНД кіраўніка Румынскай дзяржавы.

(БЕЛТА).

### З ЯКОЙ ЛІТАРЫ БУДЗЕМ ПІСАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ?

**Амерыка святкавала 216-ю гадавіну сваёй незалежнасці. Дарэчы, незалежнасць у запрашальным білеце на прыём з гэтай нагоды ў амерыканскім пасольстве ў Мінску пішацца з вялікай літары.**

**Ды і ўвогуле, адносіны амерыканцаў да свайго нацыянальнага свята нельга назваць звычайнымі. Хоць 216-я не юбілейная дата і Дэвід Х. Суорц пакуль што Часовы Павераны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь. Між іншым, Д. Буш даў нядаўна згоду на тое, каб Х. Суорц прадстаўляў інтарэсы Злучаных Штатаў у Беларусі пастаянна. Але ці зацвердзіць гэта рашэнне кангрэс?**

Аднак гэта акалічнасць не перашкодзіла амерыканскаму дыпламату правесці прыём на вышэйшым узроўні.

Ціснены золатам герб на запрашэннях 400 гасцей, багата накрытыя сталы ў садзе рэзідэнцыі пасла ў Драздах, выдатнае выступленне мінскага аркестра духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Аркадзя Берына...

Праўда, як ні стараліся амерыканцы пазбегнуць нейкіх нечаканасцей на прыёме, усё ж прыйшлося спадару Х. Суорцу зачытваць пасланне прэзідэнта сваёй краіны амаль без узмацнення — сапсаваўся мікрафон. А вось выкананне гімна Штатаў мінскаму аркестру ўдалося.

І думалася ў гэты час: калі ж вось так будзем стаяць мы, беларусы, пры выкананні свайго нацыянальнага гімна? Калі наша незалежнасць будзе пісацца і вымаўляцца ўсюды з вялікай літары? І калі яе веліч будзе ўшаноўвацца іншымі краінамі? Здаецца, не апошнія ў працы...

А пакуль што іграў мінскі аркестр на прыёме амерыканскага пасла. Госці пілі за вялікае свята Злучаных Штатаў Амерыкі. У паветры пахла шатландскім віскі, вяселлем і непадробнай урачыстасцю.

Амерыка святкавала сваю Незалежнасць.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

### ЦІ СПАСЦІГНЕ БАТАНІЧНЫ САД ЛЁС ЧЭХАЎСКАГА «ВІШНЁВАГА»?

**МІНСК. Значны рэзананс сярод вучоных выклікаў даклад дырэктара Цэнтральнага батанічнага саду Акадэміі навук Беларусі Я. Сідаровіча, які прагучаў на пасяджэнні прэзідыума акадэміі.**

Аказваецца, ва унікальным кутку прыроды з багатым і рэдкім генафондам склалася цяжкае становішча. Прычына — недахват грошай і інфляцыя, якія не дазваляюць у поўным аб'ёме даглядаць сад, дарэчы, адзін з лепшых у краінах СНД. Калі яму не будзе аказана дапамога, рэдкія расліны могуць проста загінуць. Прэзідыум Акадэміі навук Беларусі прыняў адпаведную пастанову, аднак вучоныя вельмі разлічваюць і на дапамогу тых, каму не абыякавы лёс буйнейшага ў рэспубліцы батанічнага саду.

# ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ПЕСНЯРА—СВЯТА НАЦЫІ

### Пакуль ёсць Купала

Купала,
купалле
і купал нябёс,
Куванне зязюлі
ля струн
лозаў ніцых...
Купала —
раздолле
птушыных бяроз,
Жывыя званы
беларускіх
крынічак.
Купала —
жыццё
і час
быстрацечны,
Таму й не звядзецца
ніколі
наш род.
Пакуль ёсць
Купала —
будзе
народ,
А значыць,
і песня,
і позірк сардэчны!

**Уладзімір КАРЫЗНА.**




Чытайце матэрыялы на 2-й і 4-й старонках.

### У краі купалаўскіх песень

**У Вязынцы, на радзіме народнага песняра Беларусі, 4 ліпеня адбылося традыцыйнае свята, прысвечанае 110-й гадавіне з дня нараджэння Івана Дамінікавіча Луцэвіча, які стаў вядомым свету пад імем Янкі Купалы.**

Людзі, якія прыехалі на свята, у большасці сваёй упершыню аглядалі нядаўна адкрытую экспазіцыю прадметаў ужытку беларусаў, габелены, вырабленыя дзедаўскім спосабам, і цудоўныя па тонкасці выканання калядныя маскі майстра Салдаценкавай, слухалі паэтычныя чытанні, выступленні народнага хору, беларускіх акцёраў і пісьменнікаў, успаміналі купалаўскія радкі.

**Кар. БЕЛТА.**

## Беларусь стане пасрэднікам на перагаворах

**БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ДЗЯРЖАВАЙ-ПАСРЭДНІКАМ НА ПЕРАГАВОРАХ ПА УРЭГУЛЯВАННЮ КАНФЛІКТУ У ПРЫДНЯСТРОЎІ. ТРЭЦЯГА ЛІПЕНЯ НА ГЭТА ДАЎ АФІЦЫЯЛЬНУЮ ЗГОДУ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ПРЫБЫЎШАМУ У ГЭТЫ ДЗЕНЬ У МІНСК З КАРОТКАЧАСОВЫМ ВІЗІТАМ СПІКЕРУ ПАРЛАМЕНТА МАЛДОВЫ АЛЯКСАНДРУ МАШАНУ.**

Факт візіту ў Мінск дэлегацыі Малдовы па зусім незразумелых прычынах ад журналістаў утойваўся. Згодна з наяўнымі данымі, пасля заканчэння перагавораў малдаўскія госці прапанавалі правесці прэс-канферэнцыю, аднак сам С. Шушкевіч чамусьці выказаўся супраць. Выхадныя дні жыхары Беларусі былі фактычна ў поўным няведанні наконт гэтай падзеі. Затое малдаўскі бок з гэтага візіту сакрэту не рабіў. Праз некалькі гадзін пасля папярэдняй перад сустрэчай тэлефоннай гутаркі С. Шушкевіча з А. Машану мясцовае аддзяленне «Інтэрфакса» паведаміла аб намеры кіраўніка парламента Малдовы вылецець у Мінск.

Мяркуючы па паведамленнях беларускага карэспандэнцкага пункта «Інтэрфакса», візіт А. Машану з'явіўся нечаканасцю і для прадстаўніцтва Малдовы ў Беларусі. Прынамсі пастпрэд Дзмітрый Мунтону аказаўся ў Маскве. А ў гутарцы з карэспандэнтам «Інтэрфакса» яго намеснік Міхаіл Дражын, які застаўся «на гаспадарцы» ў Мінску, заявіў, што А. Машану прыбыў нібыта для ўдзелу ў святкаванні чарговай гадавіны з дня вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў. Дарэчы, М. Дражын не адмаўляў магчымасці правядзення перагавораў на прадмет выступлення Беларусі пасрэднікам ва ўрэгуляванні канфлікту ў Прыднястроўі.

Так яно і аказалася. Паколькі механізм удзелу Беларусі ў перагаворным працэсе фактычна адсутнічаў, вырашана было назначыць адказнага за яго правядзенне. Ім стаў старшыня Камісіі ВС РБ па нацыянальнай палітыцы і міжнацыя-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## Ці зможа Беларусь стаць нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавай і ці трэба ёй да гэтага імкнуцца?

**Сваімі думкамі наконт гэтага з карэспандэнтамі агенцтва «Інтэрфакс» Вячаславам Зяньковічам і газеты «Звязда» Людмілай Лазовік дзеліцца намеснік міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік Пётр ЧАУС.**



**— Пётр Рыгоравіч! У розных дзяржаўных структурах— Міністэрстве замежных спраў, Міністэрстве абароны, урадзе і парламенце рэспублікі — цяпер ідзе работа па выпрацоўцы ваеннай палітыкі незалежнай Беларускай дзяржавы. Нядаўна канцэпцыя ваеннай дактрыны разглядалася на першым пасяджэнні Савета Бяспекі Беларусі. Скажыце, якімі вам бачацца яе асноўныя палажэнні?**

— Перш за ўсё, ваенная дактрына павінна зыходзіць з дзеючага заканадаўства, у адпаведнасці з якім Беларусь абвясціла імкненне стаць нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавай.

Дактрына складаецца з трох састаўных частак, якія закранаюць палітычныя, эканамічныя і ваенныя пытанні. Самая складаная з іх для Беларусі сёння, бадай, эканамічная. Наша рэспубліка з прычыны дрэннага становішча ў эканоміцы не можа дазволіць сабе аснасціць Узброеныя Сілы самымі сучаснымі сістэмамі ўзбраенняў і кіравання, сродкамі паражэння. Не ў стане мы і ўтрымліваць вялікую па колькасці армію. Цяпер у Беларусі налічваецца 130 тысяч ваеннаслужачых. Столькі салдат і афіцэраў для рэспублікі, якая імкнецца да дзяржаўнага нейтралітэту, і не трэба. Не патрэбныя нам сёння і кампаненты войск стратэгічнага прызначэння, што не ўвайшлі ў састаў Узброеных Сіл рэспублікі. Але мы разумеем: Расія пакуль не ў стане аператыўна перабазіраваць іх на сваю тэрыторыю. Не патрэбны нам і самы магутны ў Еўропе танкавы парк, розныя сістэмы ўзбраенняў, якія раней размяшчаліся ў рэспубліцы, зыходзячы з ваеннай дактрыны былога СССР.

Што датычыць ваенных пытанняў, якія, напэўна, будуць адлюстраваны ў дактрыне, то перш за ўсё гэта мяркуемыя структурныя змяненні войск. Стаўка не на «глухую», а на актыўную абарону, на фарміраванне і развіццё адносна невялікіх мабільных злучэнняў і часцей, якія валодаюць вялікай агнявой магутнасцю.

**— Вы, здаецца, забыліся аб палітычных пытаннях, з якімі трэба лічыцца ў рабоце над дактрынай. Цяпер, калі развалілася магутная ў мінулым звышдзяржава — СССР, якая ў многім вызначала палітычны клімат нашай планеты, пачаўся інтэнсіўны перараздзел свету на сферы ўплыву. Вы не заўважаеце спроб якіх-небудзь дзяржаў навязаць Беларусі, што імкнецца да нейтралітэту, уступлення ў розныя саюзы ці блокі?**

— Аб уплыве такіх спроб на змест дактрыны размова асобная. Сапраўды, Беларусі прапануюць далучыцца не да ўсякіх саюзаў. Напрыклад, да Вышэйградскага. Яго задумалі Венгрыя, Чэхаславакія, Польшча робіць крокі да ўваходжання ў гэты саюз з тым, каб з пералічаных краін стварыць своеасаблівы «буфер» паміж Заходняй Еўропай і Расіяй. Гучала і прапанова стварыць балтыйска-чарнаморскае таварыства.

Усе гэтыя варыянты, на мой погляд, Беларусі нельга адхіляць, але і прымаць паспешлівае рашэнне аб уваходжанні ў іх не трэба. Калі мы абвясцілі імкненне да нейтралітэту, уступаць у ваенныя саюзы не трэба спяшацца. У палітычныя, эканамічныя саюзы Беларусь заўсёды гатовая ўступіць на ўзаемавыгадных умовах.

**— Але, Пётр Рыгоравіч, адсутнасць пазіцыі ёсць таксама пазіцыя. Хіба зможа Беларусь захаваць у дадзенай сітуацыі нейтралітэт? Мяркуючы ж па ўсім, нявыгадны Расіі саюз, напрыклад, Вышэйградскі, не зможа абысціся без Беларусі. Адмова ад уступлення ў яго фак-**

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### НА ШЛЯХУ ДА ЦЫВІЛІЗАВАНАЙ БІРЖЫ

**Беларуская таварная біржа вытворцаў, у заснавальніках якой значацца 15 буйнейшых прадпрыемстваў і іншых камерцыйных структур рэспублікі, усё часцей уводзіць карысныя навāўвядзенні ў біржавую работу.**

Спачатку яна першай сярод адпаведных структур Беларусі адкрыла пры біржы аддзяленне «Прыарбанка» дзеля кантролю над фінансаваннем здзелак. Потым на БТБВ адмовіліся ад селектарных таргоў і перайшлі пры кантактах з кліентамі да электроннай пошты. І вось цяпер зроблены чарговы крок на шляху да стварэння сапраўды цывілізаванай біржы. БТБВ цалкам пераходзіць на электронную сістэму. Дзеля ажыццяўлення гэтага праекта створана спецыяльнае малое прадпрыемства, куды запрасілі 11 высокакваліфікаваных спецыялістаў-матэматыкаў. Пакуль што гэта адзіны прыклад сярод біржаў Беларусі.

### ЗАЎСЁДЫ БЕЗ ТАЛОНАЎ ТОЛЬКІ ЛАПЦІ

СЛОНІМ. Выканком гарадскога Савета народных дэпутатаў вырашыў, нарэшце, адмяніць продаж абутку насельніцтву па талонах. Будзе прадоўжаны продаж па талонах толькі мужчынскіх, жаночых і дзіцячых ботаў і паўботаў, а таксама мужчынскага і жаночага мадэльнага абутку. Не пашкодзіла б звярнуць асаблівую ўвагу і на лапці, якія ва ўсе часы плялі без талонаў. Была б толькі лаза.

### АДЗІН, ДВА, ТРЫ, ЧАТЫРЫ... КАЛІ ПЯЦЬ—МЫ ПОЙДЗЕМ ПЕШШУ ГУЛЯЦЬ

**РЫГА, 6.(Юрыс Окрыўе, БелаПАН). З панядзелка праезд у рыжскім гарадскім транспарце падаражаў удвая. Цяпер за адну паездку трэба плаціць 4 рублі. А па нядзелях тарыф павялічваецца яшчэ ў два разы — да 8 рублёў. Цана праезду пасля 11 гадзін вечара ў аўтобусах і пасля гадзіны ночы ў трамваях і тралейбусах — 10 рублёў. Адначасова ліквідуюцца шэсць аўтобусных маршрутаў.**

Набытыя па старой цане праязныя будуць дзейнічаць толькі да 15 ліпеня. Новы кошт месячных білетаў на адзін, два і тры віды транспарту складзе адпаведна 216, 312 і 396 рублёў для насельніцтва і 500, 720 і 960 — для арганізацый. Прадугледжаны скідкі для школьнікаў, студэнтаў, інвалідаў, мнагадзетных і непрацуючых маці, якія маюць дзяцей да 3-х гадоў. За праязны на адзін маршрут гарадскога транспарту прыйдзецца плаціць 144 рублі.

Паколькі павышэнне цэн у Прыбалтыцы мае тэндэнцыю праз пэўны час паўтарацца ў Беларусі, жыхары цэнтра СНД могуць зрабіць з прыведзеных вышэй рыжскіх цэн свае вывады. Між іншым, і без таго мінчанам узмоцнена напамінаюць, што сабекошт адной паездкі ў сталічным метро, аўтобусе, трамваі і тралейбусе — прыкладна 7 рублёў.



# КУПАЛЛЕ...



Згадкі пра вечнасць... З глыбіні сівой мінуўшчыны паўстае хараство гэтага старадаўняга свята. Час самага росквіту прыроды! У Боскай ласцы купаецца зямная прыгажосць. Найхарашэйшую кветку на свеце можна знайсці толькі на Яна. На Купалле так хораша птушка пяе, што месяц і зоры выходзяць паслухаць яе. Ля рачных далін паэзія разліта ў кожнай травінцы. Любоў абдымае зямлю, і кветкі не баяцца памерці.

Забытая казка былых пакаленняў ляціць у адведкі да свайго краю. Прыміце віншаванне, дарагія суродзічы, усе, каму па душы хараство роднай зямлі, хто мае Беларусь за сваю Бацькаўшчыну і марыць знайсці для яе кветку шчасця.

Будзьма ж дбаць пра сапраўднае Адраджэнне! Кожны па сваіх сілах і магчымасцях.

Каб жыла Беларусь!

Dainova

